# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 30 (58) 15—21 верасня 1993 г. Кошт 5 рублёў

## Заява Выканаўчага Камітэта БСДГ

25 жніўня мінула два гады, як Вярхоўны Савет Беларусі надаў канстытуцыйны статус Дэкларацыі аб суверэнітэце, аб'явіўшы нашу рэспубліку незалежнай дзяржавай.

Што дала і чаго не дала нам незалежнасць? За гэтыя два гады нашых дзяцей перасталі пасылаць паміраць у «гарачыя кропкі», паменшылася верагоднасць уцягнення нашага народа ў чарговае жорсткае супрацьстаянне ў Расіі, якое можа зноў прывесці да грамадзянскай вайны.

У той жа час, два гады незалежнасці—гэта час страчаных для нашага народа магчымасцей закласці аснову сваёй дзяржавы, падмурак уласнай эфектыўнай эканомікі. Нашы суседзі з Прыбалтыкі і Расіі пачалі праводзіць, хай і не без памылак, рэальныя эканамічныя рэформы, якія пачынаюць працаваць на іх грамадствы. У Расіі назіраецца павышэнне жыццёвага ўзроўню народа. У Беларусі сітуацыя процілеглая—пракамуністычны ўрад аказаўся здольным толькі на імітацыі рэформаў, што вядзе да рэзкага зніжэння жыцця народа. Больш таго, урад і яго прыхільнікі свядома кампраметуюць у вачах народа рыначныя рэформы і дзяржаўную незалежнасць. Увесь час яны чакалі і чакаюць, калі ў Расіі адхіляць ад улады Ельцына і можна будзе абысціся без рэформаў. Такая палітыка прывяла краіну да палітычнага і эканамічнага тупіка.

У цывілізаваных краінах кіраўнікоў урада, якія аказаліся няздольнымі кіраваць экономікай, скіроўваюць у адстаўку. У нас жа пачаліся пошукі замежных «дабрадзеяў», якія б узялі на ўтрыманне экономіку краіны. Прапануемая ж плата за «спонсарства»—страта дзяржаўнасці і ўцягненне нас у вір непрадказальных палітычных падзей у краінах СНД. Таму і едуць саветнік старшыні Савета Міністраў і кіраўнік праўрадавага парламенцкага аб'яднання ў Маскву—прасіцца ў канфедэрацыю, таму і цягнуць Беларусь у ваенны саюз, спрабуючы крывёю нашых дзяцей сплаціць магчымасць яшчэ колькі часу пратрымацца ва ўладзе.

Але гэта марныя спадзяванні. У Расіі дастаткова ўласных праблем, каб утрымліваць яшчэ і беларускі сацыялізм. Тым больш, што хутка цана бензіну будзе аднолькавай і ў Парыжы, і ў Варшаве, і ў Ніжнім Ноўгарадзе. Нас, нашу эканоміку, могуць ўратаваць толькі рэальныя рэформы і людзі, здольныя іх ажыццявіць.

Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады лічыць, што збанкрутаваўшыя палітыкі, якія даказалі сваю няздатнасць да кіравання краінай, павінны сысці з палітычнай арэны. Мы рашуча выступаем супраць прапановы аб канфедэрацыі, патрабуем адстаўкі пракамуністычнага кіраўніцтва урада на чале з В. Ф. Кебічам і стварэння кааліцыйнага ўрада нацыянальнага даверу.

**Выканкам ЦР БСДГ**



*Некалькімі рысамі*

## А феерверка не было

**Нягледзячы на кампанію ціску структураў улады і залежнае ад іх прэсы, віцябляне святкавалі ўвечары 8 верасня Дзень беларускае вайсковае славы.**

**Пляц Волі—традыцыйнае мейсца палітычнае (і не толькі) тусоўкі—сабраў неабыякавых да памяці продкаў. Багата было сцягоў, віншаванняў, музыкі, міліцыі...**

**Як часта здараецца на святах, нейкі госць выклікае агульную ўвагу. Гэтым разам яна была прыкутая да вядомага дэпутата-апазіцыянера, колішняга віцябляніна Сяргея Навумчыка. Ён папулярна растлумачыў сутнасць цяперашняй палітычнай сітуацыі, указаў на шляхі выйсця з яе.**

**...А феерверка не было. Яго не дазволілі нашыя ўлады. Пазбавілі нас яшчэ адной маленькай радасці ў жыцці.**

**НАЗІРАЛЬНІК.**

**ЗДЫМКІ СА СВЯТА А. ЛАКОТКІ.**







## Рома—імя народа

**У Віцебску заснаваны краязнаўчы клуб «Рома». Падобнае аб'яднанне цыганоў—першае ў Беларускай дзяржаве.**

Ягоная дзейнасць скіраваная на вывучэнне цыганскай спадчыны. А ў тым, што яна багатая й самабытная, сумненняў ні ў кога не ўзнікае. З XV ст. цыганы жывуць у Беларусі, на Віцебшчыне. Здаўна вядомыя іхнія паселішчы ў Гарадоцкім (в. Цыганы), Лепельскім (в. Завячэлле), Сенненскім (вёскі Лапатнікі ды Мяшчэнцы) раёнах. У Віцебску калісь існавала цыганская СШ...

Зараз на беларускай зямлі 12 тысяч рома. Тыя з іх, хто пажадае стаць сябрам клуба, могуць звяртацца на адрас: **210004, г. Віцебск, вул. М. Горкага, 25/8, Канстанціну Карнелюку.**

**К. СТУСЬ.**

## Дзяржпошліна з дзяржбюджэту

Яшчэ адна дэмакратычная газета—на гэты раз магілёўская «Ратуша»—атрымала іскі аб абароне гонару й годнасці.

Існец, тамтэйшы аблвыканкам, заплаціўшы дзяржаўныя грошы ў якасці судовай пошліны спадзяецца спагнаць з рэдакцыі, што пасмела крытыкаваць уладу, два мільёны рублёў.

Калектыў «Ратушы» палічыў гэты факт фрагментам «наступу правячых афіцыйных колаў на дэмакратычныя сродкі масавай інфармацыі».

**М. К.**

## Юбілеі. Настрой несвяточны

Віцебскаму тралейбусу споўнілася 15 гадоў. Юны «хлопчык» бегае зараз на амаль марафонскай дыстанцыі ў 41,5 км эксплуатацыйных шляхоў.

Ягоны старэйшы «братка»—трамвай—нядаўна спраўляў 95-ты юбілей. Летам 1898-га бельгійскай фірмай была збудаваная першая трамвайная лінія ў пяць вёрст. Цяпер жа трамвайшчыкі працуюць на 63,2 км дарогі, васьмі маршрутах. І на імкліва старэючым транспарце. Ужо сёлета спісана 4 вагоны. Замены пакуль няма. Раней горад штогод атрымліваў не менш тузіна навюткіх трамваяў...

Яшчэ адна дата ў нашых транспартнікаў. У верасні, паўтара дзесятка гадоў назад, запрацаваў новы віцебскі аэрапорт. Але настрой у авіятараў і наземных службаў, пэўна, не надта святочны: колькі зараз палётаў адсюль?

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

## Толькі пяць ацэньвае на «пяць»

На 28% упала падлеткавая злачыннасць у Оршы за першыя 6 месяцаў бягучага года ў параўнанні з адпаведным перыядам летась. Зразумела, не малая заслуга ў гэтым праваахоўных органаў. Аднак толькі пяць працэнтаў апытаных маладых гараджан лічаць дзеянні міліцыі рашучымі і законнымі падчас стрымлівання антыграмадскіх учынкаў моладзі.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

*Весткі з раёнаў*

## Дагналі. І перагоняць

За першае сёлетняе паўгоддзе 24 шаркоўшчынскія падлеткі здзейснілі 13 злачынстваў. Такім чынам, паказчыкі маладзёжнай злачыннасці ў раёне «дагналі» яе вынікі за ўвесь мінулы год.

## Сумна

27 працэнтаў маладых аршанцаў заявілі падчас сацыялагічнага даследавання, што ў горадзе няма дзе бавіць вольны час.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

## З ВС на ТБ

**15 верасня ў 22.15 Беларускае тэлебачанне пакажа «Палітычны калейдаскоп». У перадачы прымуць удзел народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце З. Пазьняк, У. Заблоцкі, С. Навумчык і інш. Як мяркуецца, гаворка будзе ісці аб сучасным палітычным і эканамічным становішчы ў Беларусі.**

**М. В.**




# ПРАБЛЕМЫ МАРСКОЙ ДАСТАЎКІ НАФТЫ ДА ТЭРМІНАЛАЎ

**Паліўны крызіс. Пра яго вынікі шмат гавораць, пішуць. Адзін са шляхоў выйсця са складанае сітуацыі прапаноўвае ўдзельнік міжнароднай канферэнцыі па паліўна-энергетычным праблемам, народны дэпутат старшыня БСДГ А. ТРУСАЎ.**

Праблема дастаўкі нафты ды прадуктаў ейнай перапрацоўкі (бензіна, газы, мазута і інш.) ад вытворцаў да спажыўцоў заўсёды была і застаецца самай злабадзённай. І гэта цалкам зразумела. Бо ні адна дзяржава, малая ці вялікая, развітая альбо тая, што развіваецца, узбярэжная або ўнутрыкантынентальная, не можа абысціся без іх.

Як вядома, перавозка нафтапрадуктаў морам да пачатку 40-х гадоў XX ст. ажыццяўлялася выключна наліўнымі суднамі—танкерамі.

Бясспрэчна, што і ў нашыя дні гэты від транспарціроўкі нафтапрадуктаў морам з'яўляецца асноўным. Пра гэтае красамоўна сведчыць той факт, што агульны танаж танкераў складае каля 42 працэнтаў сусветнага транспартнага флоту. Тут, як кажуць, каментары залішнія.

Але нельга не сказаць аб тым, што танкерны флот—рэч вельмі дарагая, асабліва зараз, калі рэзка ўзраслі цэны на метал, абсталяванне, дызпаліва, утрыманне суднаэкіпажаў і інш. Усё гэтае гаворыць пра тое, што Рэспублікі Беларусь набыццё танкераў і йх утрыманне проста не па кішэні. Бо каб купіць танкер у 20—30 тыс. т. водазмяшчэння (нават той, што быў у эксплуатацыі), неабходна сума ў межах 12—20 мільёнаў долараў. На жаль, у нас такія грошы знайсці не проста. Праўда, жыццё змусіць гэтае зрабіць пазней. А як быць зараз? І ў недалёкай прышласці? Якое выйсце шукаць?

Прадстаўляецца, што ў гэтакіх варунках трэба аб'яднанне намаганняў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна ў пераадоленні паліўна-энергетычнага крызісу, што навіс над Украінаю, Беларуссю і краінамі Балтыі.

На наш погляд, рашэнне праблемы дастаўкі нафтапрадуктаў да берагавых тэрміналаў (ці то Вентспілс, ці Клайпеда), бачна, не можа абысціся без пракладкі й эксплуатацыі марскіх падводных трубаправодаў.

Як ужо прыгадвалася, будаўніцтва падводных нафтаправодаў пачалося шчэ ў 40-я гады бягучага стагоддзя. Аднак шырокае развіццё яно атрымала ў 60-я гады ў звязку з пачаткам марской здабычы нафты. І гэта зразумела. Бо дастаўляць сырую нафту ад марскіх нафтаздабываючых платформ да берагавых нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў і сховішчаў значна дзешавей трубаправодамі, чым танкерамі.

У цяперашні час міжнароднае права дазваляе любому гаспадарству карыстацца свабодамі адкрытага мора, у тым ліку пракладваць трубаправоды па дну мора, якія злучаюць нафтапромыслы з мейсцамі распрацоўкі нафты ці нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы са спажыўцамі і берагавымі нафтасховішчамі.

Так, у арт. 2 цяпер дзеючай Канвенцыі аб адкрытым моры, якая была прынята на І Канферэнцыі ААН па марскому праву, што праходзіла ў Жэневе ў красавіку 1958 года (Беларусь прымала ўдзел у працы гэтай Канферэнцыі, падпісала й ратыфікавала згаданую Канвенцыю), гаворыцца:

**«Адкрытае мора адкрыта для ўсіх нацый, і ніякая дзяржава не мае права прэтэндаваць на падпарадкаванне якойсьці часткі яго свайму суверэнітэту. Свабода адкрытага мора ажыццяўляецца дадзенымі артыкуламі і іншымі нормамі міжнароднага права. Яна ўключае, у прыватнасці, як для прыбярэжных, так і для непрыбярэжных гаспадарстваў:**

**1. Свабоду суднаходства,**

**2. Свабоду рыбалоўства,**

**3. Свабоду пракладваць падводныя кабелі і трубаправоды,**

**4. Свабоду лятаць над адкрытым морам».**

Са сказанага бачна, што прыбярэжная дзяржава не можа перашкаджаць пракладцы ці падтрыманню ў цэласці падводных трубаправодаў на кантынентальным шэльфе і марскім дне выключнай эканамічнай зоны, апроч тых выпадкаў, калі яна ажыццяўляе сваё права прымаць разумныя меры для разведкі шэльфа і распрацоўкі ягоных рэсурсаў.

Канвенцыя ААН па марскому праву 1982 г. (падпісана 10 снежня 1982 г. у Монтэга-Бэй, але, на жаль, дагэтуль не ўступіла ў сілу) дапаўняе гэтае палажэнне правам прыбярэжнай дзяржавы прымаць меры па прадухіленню, скарачэнню і захаванню пад кантролем забруджання ад трубаправодаў. Узбярэжнае гаспадарства мае права вызначаць варункі пракладкі трубаправодаў, траса пракладкі трубаправода вызначаецца таксама з ягонай згоды.

Зараз варта сказаць колькі слоў пра падводныя трубаправоды з тэхнічнага пункту гледжання.

Падводныя трубаправоды дзеляцца на магістральныя, унутрыпрамысловыя і злучальныя. Магістральныя падводныя трубаправоды злучаюць прамыслы з мейсцамі перапрацоўкі і спажывання. Да іх адносяцца таксама прадуктаправоды, якія пракладзеныя па марскому дну ад нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў да спажыўцоў. У былым Савецкім Саюзе такія трубаправоды былі на Каспійскім моры, дзе яны злучалі «Нафтавыя камяні» (марскія нафтаздабываючыя платформы) і Апшаронскае ўзбярэжжа.

Унутрыпрамысловыя падводныя трубаправоды праходзяць ад здабываючых комплексаў да сховішчаў і ад сховішчаў да злучальных трубаправодаў, якія звязваюць іх з нафтавымі прычаламі, звычайна рэйдавымі ці вынаснымі, з каторых ажыццяўляецца пагрузка нафты на танкеры.

Магістральныя і ўнутрыпрамысловыя падводныя трубаправоды выконваюцца са стальных труб дыяметрам 102—1220 мм на глыбінях да 600 м.

Для пракладкі трубаправодаў на марскім дне маюцца спецыяльныя судны-трубаўкладчыкі. Першае такое судна было збудавана ў ЗША ў 1956 годзе.

Зыходзячы з вышэйсказанага, Беларусі больш выгадна ўкладваць капіталы не ў танкерны флот, а ў трубаправодны транспарт.

# ІМЁНЫ ЛІТОЎСКІХ КНЯЗЁЎ І БАЯРАЎ...

**Што яны азначаюць! Якою мовою іх растлумачыць!**

Летувіскаю (жмудскаю) у шэрагу выпадкаў імёны гэтыя немагчыма расшыфраваць. Тым больш, што ў апошні час рознымі гісторыкамі балцкая прыналежнасць старажытнае літвы і, вядома ж, яе правадыроў-князёў, усё больш падвяргаецца сумненню. Існуюць розныя погляды на гэты конт. Адны даследчыкі лічаць літву фіна-угорскім, другія—заходнеславянскім племем (такой думкі прытрымліваецца замежны гісторык-беларус Павел Урбан). Трэція ж, напрыклад Мікола Ермаловіч, трымаюцца звыклае тэорыі балцкага паходжання літвы. А Вітаўт Чаропка, малады гісторык і пісьменнік, наогул лічыць літву вайсковаю кастай, ці саслоўем, у дружыны якой набіраліся вoі адусюль. Там былі і балты, і кельты, і варагі-скандынавы, і славяне. Магчыма, што ён мае рацыю. Падобная практыка набору воінаў існавала ва ўсёй Еўропе і, асабліва, у варагаў-вікінгаў. Дацкія, шведскія, нарвежскія конунгі і хёўдынгі (нешта накшталт нашых баяраў або старэйшынаў) набіралі воінаў з усёй Еўропы. У іх дружынах былі фіны, кельты, паморскія і палабскія славяне, англы і саксы, прусы і борты. Відаць, падобны працэс назіраўся і ў дружынах літвы. Яны таксама фармаваліся за кошт прышлага элементу. А можа літва наймала да сябе на службу цэлыя дружыны з суседніх земляў (тых жа вікінгаў) з правадырамі-князямі? Бо чым інакш вытлумачыць прыналежнасць імёнаў літвы і яе князёў да розных анамастыконаў—балцкага, скандынаўскага, магчыма, угра-фінскага і кельцкага? Карацей кажучы, адзінства думак у пытанні этнапрыналежнасці літвы і імёнаў літоўцаў сярод навукоўцаў няма.

Але ўсё ж як расшыфраваць імёны літоўскіх князёў і шляхты? Некаторыя з імёнаў літоўцаў маюць яскравы славянскі характар, некаторыя—прыналежнасць да скандынава-германскага анамастыкону. Вось напрыклад, шэраг імёнаў літоўцаў, якія адносяцца да славянскіх: Будзівід, Вітаўт, Бутаўт, Венцлаў, Нарбут, Судзівой, Вайнібуд.

Імя «Вайнібуд». Ягонае значэнне «воем (воінам) будзь». Лепшага імя для тых цяжкіх, крывавых часоў пастаянных войнаў і не трэба было. Чалавеку пры нараджэнні, калі надавалі гэтае імя, жадалі, каб ён быў воінам, дужым моцным, харобрым. Такія якасці ваяра і павінна было падкрэсліваць імя «Вайнібуд». Яно ж мае свой адпаведнік «Будзівой». Сэнс гэтага імя той жа самы.

Імя «Вітаўт»—сцягнутая форма славянскага імя «Вітавіт». Дарэчы, у некаторых рускіх летапісах імя Вітаўта Вялікага мае менавіта такую форму. Для параўнання прывяду шэраг імёнаў з «-віт»—Драгавіт, Людавіт, Гасцівіт. Вытлумачыць сэнс слова «Вітаўт» («Вітавіт») вельмі цяжка. Мажліва, яно паходзіць ад праславянскага *віті, што значыць «чысты, светлы». У таго ж князя Вітаўта, быў родны брат Бутаўт. Імя гэтага князя ёсць скарачэнне ад імя «Бутавіт» («Будзівід»?).

Я не разумею тых беларускіх гісторыкаў, якія ўслед за летувісамі лічаць усе літоўскія княскія і шляхецкія імёны летувіскімі (жмудскімі).

Безумоўна, што сярод феадальнае верхавіны ВКЛ, былі выхадцы з этнічных летувіскіх (жмудскіх) земляў (Гаштольды, Гедройцы) з жамойцкімі іменнямі. Але ж большасць паноў і шляхты была з гістарычнай Літвы (Верх. Панямонне) і беларускіх земляў.

У Гарадзельскім прывілеі 1413 года ў пераліку літоўскіх баяраў сустракаем пана з славянскім імем Дабрагост Нарбутавіч. А імя пана Судзівоя Валімунтавіча знаходзім у дзяржаўных дакументах часоў Вітаўта і Казіміра Ягайлавіча. Славянскасць ягонага імя кідаецца ў вочы, а летувіскія даследчыкі, сустракаючы вось гэткае славянскае імя ў хроніцы (або ў дзяржаўным акце) абавязкова абвяшчаюць яго летувіскім. Балцкае (?) імя па бацьку пана Судзівоя не павінна нікога бянтэжыць. «Валімонтавіч» (летапіснае «Волимонтович»)—гэта скажонае «Вальгімонтовіч» або «Альгімонтавіч». У гэтым выпадку характэрнае для беларускага правапісу напісанне прыстаўной літары. Параўнайце Ольга—Вольга.

Імя Альгімонт насіў родапачынальнік князёў Гальшанскіх. Як яго растлумачыць? Яно можа паходзіць з балцкіх моваў, але верагодней за ўсё, прыйшло на Беларусь са скандынаўскіх моваў, праз балцкія (якімі было запазычана). У скандынаўскіх мовах гэтае імя мела формы «Хельгімунд», «Хельгмуд» (або «Хельгмунт»). Потым яно пераўтварылася ў «Хельмут». У балцкіх жа мовах імя «Хельгімунд» («Хельгімунт») змянілася на «Альгімонт» ці «Альгімунт». У беларускія летапісы трапіла як «Вольгимонт», «Волимонт».

Вось яшчэ адзін з прадстаўнікоў літоўскае шляхты, які меў славянскае імя. Гэта пан Венцлаў Нямíра, са знанага і багатага літоўскага каталіцкага роду Неміровічаў. Калі ўважліва прааналізаваць імя феадала, то ўбачым, што яно адносіцца да заходнеславянскіх. «Венцлаў» —гэта, мабыць, адна з формаў імя «Венцеслав» або «Вацлаў». Як бачым, нічога летувіскага ў ім няма.

Цяпер пагаворым аб імёнах іншых літоўскіх князёў. Дзеля прыкладу можна ўзяць імя «Жыгімонт», якое было даволі пашыраным у пануючым родзе Гедымінавічаў і ў асяродку літоўскай магнатэрыі. Сярод Гедымінавічаў у розныя часы існавала некалькі асобаў з гэтым імем. Што яно азначае і з якой мовы прыйшло?

«Жыгімонт»—беларуская форма (якая раней ужывалася ў летапісах і дзяржаўных актах Вялікага Княства) германскага па сваім паходжанні імя «Сігізмунд», або «Сігімунт». Па-польску яно пішацца Zygmunt, а азначае па-старажытнагерманску «абаронца, які перамагае». А за тое, што яно германскага ці, дакладней, скандынаўскага паходжання, кажа той факт, што ў дацкіх вікінгаў быў правадыр—канунг па імені Сігмунт.

А якога паходжання імены вялікіх князёў літоўскіх Альгерда і Кейстута? Летувіскія мовазнаўцы і гісторыкі лічаць імя Альгерда (па-летувіску «высакароднае, шляхетнае, кап'ё») выключна летувіскім. Так, можна дапусціць, што гэтае імя трэба выводзіць з балцкіх моў. Але ж аб'яўляць яго выключна жмудскім нельга. Трэба мець на ўвазе і іншыя версіі аб паходжанні імёнаў літоўскіх князёў—славянскую і скандынава-германскую. Неабходна таксама памятаць, што акрамя жамойтаў і аўкштайтаў, існавалі іншыя балцкія плямёны, у якіх маглі існаваць падобныя імёны. Ды і беларусы могуць з поўным правам лічыць імёны літоўскіх князёў і іх носьбітаў сваімі. Згодна з вынікамі апошніх даследаванняў навукоўцаў-археолагаў, лінгвістаў, этнографаў ды іншых, прызнаецца сапраўдным той факт, што беларусы такія ж балты як і летувісы, што яны ў большай ступені балты, чым славяне. Яны з'яўляюцца славянамоўнымі балтамі. Можна таксама дапусціць, што імёны літоўскіх князёў—агульная індаарыйская спадчына, якая дасталася нам ад індаеўрапейскай прамовы. І таму падобныя паміж сабою імёны існуюць у розных еўрапейскіх народаў. Можна таксама меркаваць, што імя князя Альгерда—славянскае, бо ў летапісах ёсць асабліва рэдкая (акрамя формаў **Олгердъ, Олгирдъ**) форма **Олигордъ**. Яна падобная на імя славянскага князя, які зваўся Усегард (Всегорд).

А вось факты, якія можна прывесці ў абарону версіі германскага паходжання імя «Альгерд». Некаторыя навукоўцы лічаць гэтае імя германскім. Ёсць факты, якія не супярэчаць такім высновам. Напрыклад, П. Урбан падае цікавае паведамленне ў сваёй працы з нямецкай хронікі аб каралі англасаксаў на імя Альгард, які жыў у VIII ст. Па меркаванні П. Урбана, імя літоўскага князя адпавядае германскім «Адальгард» і «Адальберт», а таксама чэшскаму імені «Ольдржых». Думка вельмі слушная. У нарвежскіх і шведскіх вікінгаў былі правадыры на імёны «Торгерд» і «Хальгерд». Апошняе з прыведзеных мной вельмі падобнае да імя Альгерда. Чаму ж не дапусціць, што «Альгерд» утварылася ад варажскага «Хальгерд». Магчыма, нават, што ў такой змененай форме «Альгерд» («Ольгерд»), яно прыйшло праз балцкую, дзе скандынаўскае імя «Хальгерд» падвергнулася асіміляцыі.

Імя князя Кейстута, відаць, усё ж паходзіць з балцкіх моваў. У летувіска-расейскім слоўніку я знайшоў слова «keistuolis», што значыць «дзіўны» (па-расейску «странный», «диковинный»). Мабыць, імя «Кейстут» утворанае ад гэтага слова. Але ж у беларускіх ды расейскіх летапісаў маюцца такія формы імя князя—«Кестутий», «Кестутей», «Кестут», «Кейстут». А ў нямецкіх, крыжацкіх лацінамоўных хроніках ён фігуруе як «Kerstut» («Керстут»), «Gerstut» («Герстут»). Або ёсць яшчэ форма «Kenstutt», якая адлюстравана на лацінамоўнай пячатцы гэтага князя. А ў кнізе В. Ластоўскага «Кароткая гісторыя Беларусі», змешчана выява пячаткі Кейстута, на якой імя ягонае пададзена ў балцкай транскрыпцыі «Keistutis». Але, верагодней за ўсё, пячатка гэтая, як і Міндоўгава з «Пагоняю» —больш позняя падробка летувісаў. Бо ў XIV ст., калі жыў князь Кейстут, у жмудзінаў пісьмовасці яшчэ не было. Таму балцкамоўная пячатка, ды яшчэ выкананая ў лацінскай графіцы, з'явіцца не магла. Магчыма, што імя князя ўтворанае ад балцкага слова «kersti», што

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ІМЁНЫ ЛІТОЎСКІХ КНЯЗЁЎ І БАЯРАЎ...

(Заканчэнне.
Пачатак на 2-й стар.).

значыць «помсціць». Дык тады выходзіць што «Кейстут» трэба перакладаць як «мсціўца», Але існавала падобнае імя і ў славянаў, у Ноўгарадзе Вялікім—«Кестуй».

Імя «Нарымонт» (брата князя Альгерда), відаць, мае германскае паходжанне. Растлумачу. Сярод нашчадкаў старажытных англаў і саксаў, сучасных амерыканцаў і ангельцаў існуе імя «Норман». Яно, бачна, мае значэнне «чалавек з Поўначы». Можа быць, першапачатковая форма імя «Нарымонт» была падобная на «Норман»: «Нордмонт» («Нармонт»)—«Нарымонт».

У Швецыі ёсць мясцовасць пад назваю Норланд. Магчыма, што імя «Нарымонт» і геаграфічны назоў неяк звязаны між сабою. Напэўна, імем «Нарымонт» раней называлі «выхадцаў з Норланда». А чаму не дапусціць думку, што літоўскія князі—скандынавы з Норланда, як і славянін Рурык перасяліўся з паморскіх земляў у Ноўгарад, так і продкі Гедыміна, вікінгі, перасяліліся на Літву. А Нарымонт Гедымінавіч быў названы, магчыма, у гонар свайго продка-перасяленца ці ў памяць аб краіне, з якой выйшлі Гедымінавічы.

Мусіць, усё ж нездарма давалі імёны «Нарымонт», «Альгерд», «Жыгімонт» у родзе з Гедымінавічаў. Яны памяталі аб сваім скандынаўскім паходжанні, ведалі аб сваёй варажскай крыві.

А вось імя другога Альгердавага брата Яўнута належыць да балцкіх моў. У тым жа летувіска-расейскім слоўніку маецца «jaunutis», што значыць «маладзенькі, або юнак». Ад гэтага слова і ўтворана імя Гедымінавага сына, брата Альгерда, Яўнута. Калі ўспомніць, што летапісы называюць сына Гедыміна Яўнута самым малодшым, тады і стане зразумела, чаму бацька даў яму такое імя.

Імя ж сына Альгердавага, князя Карыбута, таксама, відаць, балцкага паходжання. Яно—адпаведнік славянскім «Будзівой» і «Вайнібуд». «Karys»—«воін» і «buti»—«быть». Атрымоўваецца «Karibut».

Можна бясконца спрачацца наконт паходжання імёнаў літоўцаў і іх носьбітаў. Можна спрабаваць вытлумачваць іх рознымі мовамі—славянскімі, балцкімі, германскімі ці нават папуаскімі. Але ўсё роўна, відаць, не даведаемся ніколі, кім яны—старажытныя літоўцы і іх князі—былі па этнічным паходжанні. Гэта адна з найвялікшых таямніцаў нашае гісторыі.

Альгерд КОРСАК.

# Дзяржава губіць і... абараняе

На Аршаншчыне для захавання тарфянікаў ствараюцца два дзяржаўныя біясферныя заказнікі.

М. ВАЛАЧОБНІК.

# Ідэалагічныя выкапні

Убачыць у нашы дні дзе-небудзь насценную газету—справа амаль што неверагодная.

І калі на другім паверсе адміністрацыйнага будынка калгаса імя Кірава, што ў Сенненскім раёне, кінуўся ў вочы вельмі маляўнічы стэнд з назвай «Вестник», я, вядома, падышоў да яго.

А там ніжэй напісана, што гэта «Орган партийной, профсоюзной и комсомольской организаций».

А там жа словы Ільіча-першага аб тым, што «Газета—не только коллективный пропагандист...», ну і гэтак далей.

А там выява маскоўскага Палаца з'ездаў, а там выява чырвонага сцяга, на якім красуецца лічба «XXVII».

Там і калонкі нават не пуставалі, на іх змяшчаліся машынапісныя лісткі. Праўда, то былі не перадавіцы, не заметкі, выкрываючыя п'янчуг. Гэта былі графік дзяжурстваў членаў добраахвотнай народнай дружыны за сакавік 1989 года, спіс тых, хто ідзе на пенсію ў тым жа годзе, каментарый аб тым, як налічваюцца пенсіі па ўзросту за той жа час.

Прывыклі, мусіць, некалі да насценгазеты канторскія работнікі: няхай сабе вісіць. Каўзануць па ёй раўнадушным позіркам, ды і займаюцца сваімі справамі. Так жа, як і прывыклі да шыльды на будынку, якая сведчыць, што ўсё яшчэ быццам бы існуе «Госагропром БССР», а значыць і сама тая самая «БССР».

Ці то рукі ні ў кога не даходзяць, ці то спадзяюцца, што ўся гэтая запыленая і наскрозь прагнілая «наглядная агітацыя» яшчэ спатрэбіцца...

І. ЛАЗУКА,
г. Сянно.

*«Нью-Ерк Таймс» аб нас*

# Беларусь, на жаль, не ўзор

Хаця, быць можа, Беларусь і заслугоўвае нейкай падтрымкі за сваю палітыку па пазбаўленню ад ракетаў з ядзернымі боегалоўкамі, усё ж выстаўляць гэтую краіну ў якасці ўзору для пераймання ўсім іншым былым савецкім рэспублікам наўрад ці слушна.

Беларусь належыць да ліку найменш дэмакратычных дзяржаваў, што ўзніклі з рэспублік колішняга Савецкага Саюза. Летась парламент пасмеў не звярнуць увагу на петыцыю, каторую падпісалі 400 тысяч выбаршчыкаў і прызнала законнай выбарчая камісія. Петыцыя заклікала да правядзення рэферэндуму па пытанню аб правядзенні выбараў у парламент да сканчэння тэрміну паўнамоцтваў цяперашняга парламента. Большасць сродкаў масавай інфармацыі належыць ураду ці субсідзіруецца ім. Першага студзеня г.г. былі закрытыя нешматлікія і слабыя радыё- і тэлестанцыі.

У народнай гаспадарцы працягвае дзейнічаць сістэма цэнаўтварэння на савецкі манер, а 90 працэнтаў уласнасці належыць дзяржаве.

Арт Б. АРТМАН.

# З архіваў. «Бухгалтэрыя» смерці



Помнік ахвярам гітлераўскага фашызму ў Віцебску.

Фотаздымак А. ЛАКОТКІ.

**Мы працягваем друкаваць спісы вязняў Віцебскай гарадской турмы СД. Пачатак публікацыі—у «Выбары» №№17—22.25. 26.Спісы друкуюцца паводле дакумента «Рэгістрацыйны журнал асоб, арыштаваных СД», які вёўся на нямецкай мове і ахоплівае перыяд з чэрвеня па снежань 1942 года. Мы імкнёмся максімальна перадаць асаблівасці арыгінала.**

**Непаслядоўнасць дат ды недакладнасць некаторай іншай інфармацыі, якія сустракаюцца ў спісе, тлумачацца тым, што менавіта так яны пададзены ў дакуменце. У якіхсьці імёнах і прозвішчах вязняў магчымыя скажэнні ў выніку падвоенага перакладу—з рускай мовы на нямецкую і наадварот, а таксама з-за асаблівасцяў рукапіснага арыгінала.**

**Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам Віцебскага абласнога архіва за дадзены дакумент.**

## Тетрадь № 8

**Фонд 2155, опись 2, дело 5**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | **6.7.42** | |
| | 1 | 2298 | 84 | Базор Василий | СД |
| | 1 | 2630 | 33 | Тишанова Тамара | СД |
| 1 | | 2738 | 14 | Шалак Роман | |
| 1 | | 2739 | 20 | Шалак Александр | |
| 1 | | 2740 | 55 | Петровский Иван | |
| 1 | | 2741 | 32 | Тарасюк Эдуард | |
| | 1 | 1537 | 97 | Грицун Архип | |
| 1 | | 2742 | 12 | Надеждина Ирина | СД |
| | 1 | 2522 | 43 | Очеренцо Владимир | |
| | 1 | 2062 | 70 | Пишковский Владимир | |
| 1 | | 2743 | 87 | Садовский Адольф | |
| 1 | | 2744 | 97 | Садовский Станислав | |
| 1 | | 2745 | 12 | Окорокова Мария | |
| | | | | **7.7.42** | |
| 1 | | 2746 | 89 | Кукова Агадева | СД |
| 1 | | 2747 | 88 | Орсик Мария | СД |
| 1 | | 2748 | 33 | Хадацевич Софья | СД |
| 1 | | 2749 | 15 | Маслянский Ёзеф | СД |
| 1 | | 2750 | 15 | Кика Ёзеф | 3 пол. уч. |
| | 1 | 2187 | 77 | Кучеренко Николай | СД |
| 1 | | 2751 | 12 | Садовская София | СД |
| 1 | | 2752 | 88 | Лапковская Станислава | СД |
| 1 | | 2753 | 15 | Фабиан Вальтер Израель | СД |
| 1 | | 2754 | 14 | Сердученко Иван | 3 пол. уч. |
| 1 | | 2755 | 14 | Парузух Иван | СД,1 пол. уч. |
| 1 | | 2756 | 14 | Стрешонкин Александр | СД, 1 пол. уч. |
| 1 | | 2757 | 12 | Роек Ида | 5 пол. уч. |
| | | | | **8.7.42** | |
| 1 | | 2758 | 14 | Мендкович Шеим | |
| 1 | | 2759 | 14 | Бруднес Езек | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2760 | 12 | Спокович Сара | |
| 1 | | 2761 | 15 | Норейко Фелициант | СД |
| 1 | | 2762 | 15 | Карочонов Клопф | СД |
| | 1 | 669 | 28 | Вдовенчик Андрей | в суд |
| 1 | | 2763 | 15 | Полонский Бронислав | |
| 1 | | 2764 | 15 | Минкевич Николай | СД |
| | 1 | 2738 | 72 | Нольте Франц | нем. суд |
| 1 | | 2765 | 15 | Гривин Василий | 3 пол. уч. |
| 1 | | 2766 | 15 | Волков Иван | —»— |
| 1 | | 2767 | 15 | Сташкевич Петр | СД |
| | 1 | 2601 | 84 | Муриев Леонид | СД |
| | 1 | 2495 | 88 | Шульга Нина | СД |
| | 1 | 2494 | 88 | Иванова Таиса | СД |
| | | | | **9.7.42** | |
| | 1 | 2392 | 91 | Царкун Олег | СД |
| 1 | | 2768 | 8 | Петросевич Аркадий | |
| 1 | | 2769 | 15 | Дубовик Лаван | СД |
| 1 | | 2770 | 12 | Цевев Фанни | СД |
| | 1 | 2363 | 37 | Крючкин Ольга | суд |
| | 1 | 2574 | 88 | Дедюла Лида | СД |
| | 1 | 2575 | 88 | Цинчик Лида | СД |
| | 1 | 2599 | 84 | Тарасевич Эдуард | СД |
| | 1 | 2502 | 65 | Красковский Петр | СД |
| | 1 | 2614 | 88 | Чумакова Елена | СД |
| | 1 | 2189 | 88 | Игнатьева Галина | СД |
| | 1 | 1763 | 86 | Головлёв Василий | СД |
| | 1 | 2656 | 101 | Скуратович Александр | СД |
| | 1 | 2497 | 84 | Гончарик Максим | СД |
| | 1 | 2496 | 84 | Макоревич Николай | СД |
| | 1 | 2494 | 91 | Заяц Николай | СД |
| 1 | | 2771 | 99 | Клочко Антон | СД |
| | 1 | 2704 | 90 | Ганцевич Паша | СД |
| | 1 | 2703 | 90 | Гаврилова Виктория | СД |
| | 1 | 2701 | 77 | Яценко Виктор | СД |
| | 1 | 1739 | 48 | Макарова Ольга | СД |
| | 1 | 1781 | 88 | Ларионова Вера | СД |
| | 1 | 1922 | 69 | Петров Иван | СД |
| | 1 | 1969 | 75 | Шидович Леонид | суд |
| | 1 | 1174 | 63 | Левин Ефим | умер |
| 1 | | 2772 | 89 | Сикунова Ангель | |
| | | | | **10.7.42** | |
| | 1 | 2371 | 88 | Кравчук Мария | СД |
| | 1 | 2606 | 84 | Иванов Константин | СД |
| 1 | | 2773 | 15 | Вавиловский Иван | 4 пол. уч. |
| | 1 | 2538 | 98 | Миронов Борис | СД |
| | 1 | 2408 | 32 | Муровин Владимир | СД |
| 1 | | 2775 | 15 | Рябиков Григорий | СД |
| 1 | | 2776 | 15 | Диханенко Валениас | |
| | 1 | 2451 | 66 | Лозик Василий | нем. суд |
| | 1 | 2452 | 66 | Ламов Антон | нем. суд |
| 1 | | 2777 | 15 | Гашуев Григорий | 1 пол. уч. |
| | 1 | 2677 | 87 | Узалевский Дмитрий | СД |
| 1 | | 2778 | 15 | Цасс Ирма | 1 пол. уч. |
| 1 | | 2779 | 68 | Мелеманн Вальтер | |
| 1 | | 2780 | 15 | Раевский Эдуард | СД |
| 1 | | 2781 | 15 | Прегапович Стефан | СД |
| 1 | | 2782 | 12 | Туншенко Алевтина | 3 пол. уч. |
| 1 | | 2783 | 12 | Лабитуб Ида | 3 пол. уч |
| | | | | **11.7.42** | |
| | 1 | 2261 | 88 | Февдахимович Анна | 3 жен. отд. |
| | 1 | 2583 | 88 | Дулита Марфа | 3 жен. отд. |
| | 1 | 2582 | 88 | Тихонова Анна | 3 жен. отд. |
| | 1 | 2259 | | Станович | СД |
| | 1 | 2282 | | Гоморович Мария | СД |
| 1 | | 2784 | 15 | Грийка Петр | СД |
| 1 | | 2785 | 15 | Володько Евгений | СД |
| 1 | | 2786 | 15 | Володько Михаил | СД |
| 1 | | 2787 | 15 | Спвивак Зяма | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2788 | 15 | Галавский Арон | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2789 | 14 | Ривкин Гиура | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2790 | 14 | Рубентодич Франц | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2791 | 14 | Ривкин Риукуд | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2792 | 14 | Ривкин Леонид | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2793 | 14 | Майзенштайн Яша | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2794 | 14 | Халовский Яраф | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2795 | 14 | Халовский Рахел | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2796 | 14 | Харуас Симон | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2797 | 14 | Косич Варвара | |
| 1 | | 2798 | 15 | Белоусов Петр | СД |
| 1 | | 2799 | 26 | Дитрих Петр | |
| 1 | | 2800 | 12 | Держинская Мария | СД |
| 1 | | 2801 | 12 | Павлович Барбара | СД |
| | | | | **13.7.42** | |
| 1 | | 2806 | 15 | Бочаров Леонид | |
| 1 | | 2807 | 12 | Воробьева Ада | |

(Працяг·будзе).

